ГРОДНА
№4 (556),
21 лютага 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Знак надзеі



m.niedziela.pl

*Бог мае моц адрадзіць мяне нават з купкі попелу. Ён першы падняўся з попелу смерці.*

на старонцы 2

## Селіванаўцы



А. Вашкевіч

*Нармальнае парафіяльнае жыццё тут наладзілася толькі ў 1990 годзе.*

на старонцы 4

## Хрыстос “прызямліўся”, або пра чалавечыя рысы ў Боскіх вобразах



Н. Клімовіч

*Ні партрэт, ні пейзаж, ні нацюрморт немагчыма напісаць без асаблівага пачуцця таямніцы.*

на старонцы 7

# ВЯЛІКІ ПОСТ У СЭРЦАХ МАЛЫХ



pixabay.com

**Каб вера была жывой, трэба яе перадаваць з пакалення ў пакаленне, і лепш пачынаць як мага раней. Тлумачыць хрысціянскія асновы дзецям варта адмысловым спосабам, тады і наша супольная вера будзе плённай. Уваходзячы ў перыяд Вялікага посту, скарыстаем практычныя парады, як дапамагчы хлопцам і дзяўчатам у перажыванні гэтага важнага, але складанага перыяду.**

на старонцы 3



# КС. АНДРЭЙ КЕЎЛІЧ: “ПАЧАЦЬ ПРЫХОДЗІЦЬ НА СВ. ІМШУ МІНІМУМ ЗА 15 ХВІЛІН”

**Штотыдзень католікі збіраюцца на літургію. Заўсёды, у цэлым, аднолькавую. Той жа парадак, тыя ж малітвы, тая ж супольнасць. Небяспека баналізацыі відавочная. А Касцёл вучыць, што Эўхарыстыя – гэта вяршыня хрысціянскага жыцця.**

на старонцы 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!

*У Папяльцовую сераду пачаўся чарговы Вялікі пост нашага жыцця. Многія з нецярпеннем чакаюць гэтага часу, калі зможам дадаць уласныя смуткі да смуткаў церпячага Езуса Хрыста, нашага Пана і Валадара. Часу, калі здолеем глыбей зразумець тое, што не заўсёды можна цалкам зразумець: жыццё, пакуты, страту самай блізкай асобы... Часу, калі зможам падзякаваць за тое, што маем такога добрага Сябра, які паліčыў за лепшае памерці сам, каб мы маглі жыць.*

*На парозе гэтага святога часу, які дае нам Пан, трэба крыху спыніцца і паразважаць пра сябе і сваё жыццё. Трэба па-новаму паглядзець на крыж, які з'яўляецца не толькі цяжарам, але, перш за ўсё, знакам вялікай любові Езуса да чалавека.*

*Хрыстос запрашае нас у гэтым Вялікім посце ісці па Яго слядах. "Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе, штодня бярэ крыж свой і ідзе за Мною" (Лк 9, 23). Кожны мае свой крыж, большы ці меншы, адпаведны сабе, які пэўным чынам нас змярцвяе, заклікае адрачыся ад самога сябе, адмовіцца ад самалюбства, уласнага "я" і з любові да Бога прыняць свайго бліжняга такім, які ён ёсць, аказваючы яму любоў, цярплівасць, далікатнасць і пачцівасць, молячыся за яго.*

*Ахвяруйма Усемагутнаму тое, што нам дарагога варта, што ламае нашу ўпартую волю, а не проста адмову ад салодкага ці якога-небудзь смачнага куска. Больш прыемным для Бога будзе, напрыклад, адмова ад нейкага серыяла, які не ўзбагачае душу, а толькі задавальняе цікаўнасць. Ахвяра, складзеная ў інтэнцыі грэшнікаў, можа дапамагчы камусьці вызваліцца ад залежнасці, якая мучыць яго душу.*

*Няхай сёлетні Вялікі пост, пражыты ў духу пакоры і з пакаянным сэрцам, стане часам складання ахвяр нашым штодзённым жыццём і наблізіць нас да Уваскрасення!*



*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**21 лютага**

***I Нядзеля Вялікага посту.***

*I Нядзеля Вялікага посту паказвае вернікам шлях, вызначаны Хрыстом, які суправаджаецца змаганнем са злом і пакутамі, што вядуць да збаўлення. Асноўныя думкі першай нядзелі – пост і барацьба Хрыста з д'ябалам у пустыні, а таксама пакаянне, пост і навяртанне ўсіх, хто ў Яго верыць, як падрыхтоўка да штогадовай Пасхі. Літургія прадстаўляе перспектыву вечнай Пасхі як сэнсу веры і ўсіх намаганняў у пераймання Хрыста, каб удзельнічаць у Яго перамозе.*

**22 лютага**

***Свята Катэдры св. апостала Пятра.***

*Катэдра біскупа, г. зн. урачыстае крэсла, на якім сядзіць біскуп, з'яўляецца знакам яго пасады настаўніка, арцыпрэзбітэра і пастыра. Св. Пётр успамінае, што Езус даверыў яму пасаду наступніка на зямлі. Вера св. Пятра – гэта скала, на якой Хрыстос пабудаваў свой Касцёл. Свята катэдры св. апостала Пятра нагадвае нам, што Касцёл з'яўляецца паўсюдным, г. зн. каталіцкім і апостальскім, а Рым – места, дзе св. Пётр засведчыў веру і любоў да Езуса, аддаўшы за Яго ўласнае жыццё. Гэтае свята павінна нагадваць нам, што Папы як біскупы Рыма кіруюць Касцёлам, як устанавіў Хрыстос, таму вернікі павінны паважаць іх і быць паслухмянымі.*

**28 лютага**

***II Нядзеля Вялікага посту.***

*II Нядзеля Вялікага посту дае нам зразумець, што хрысціянства – гэта не тэорыя, аперыраванне паняццямі ці вера ў нешта, але, перш за ўсё, досвед, сустрэча і даручэнне Камусьці. Таму ў Вялікім посце Хрыстос запрашае нас пайсці з Ім не ў натоўп і на рынак, а асобна на высокую гару, бо толькі там мы можам убачыць Яго іншага, чым сустракаем кожны дзень, паглынутыя тысячай спраў, іншага, чым паказваюць нам у сродках масавай інфармацыі, на выставах, у спектаклях і фільмах, але пераменненага, апранутага ў вопратку настолькі белую, як ніводзін валюшнік на зямлі не можа выбеліць, а таксама ўміліванага Айцом (параўн. Мк 9, 3. 7).*

**4 сакавіка**

***Свята св. Казіміра, каралевіча, заступніка Гродзенскай дыяцэзіі.***

*Казімір быў сынам караля Казіміра Ягелончыка. Нарадзіўся ў 1458 годзе. Вылучаўся асаблівай чысцінёй духу і міласэрнасцю да бедных. Разам з бацькам прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці. Руплівы шанавальнік Эўхарыстыі і Найсвяцейшай Панны Марыі, ён шмат часу прысвячаў малітве. Пасля працяглай хваробы лёгкіх памёр у Гродне 4 сакавіка 1484 года. Пахаваны ў Вільні, а яго рэлiквіі спачылі ў віленскай катэдры.*

# ЗНАК НАДЗЕІ

*працяг са с. 1*

***Кс. Юрый Марціновіч***

Кожны год Вялікі пост пачынаецца з пасыпання галоў попелам. Гэты звычай мае ў Касцёле вельмі доўгую традыцыю, якая сягае V стагоддзя. На пачатку Вялікага посту тыя, хто ўчыніў цяжкія грахі, прызнаваліся ў іх перад сваім біскупам, а ён уключаў грэшнікаў у г. зв. "стан пакутнікаў". Пасля таго, як вызнавалі свае грахі, іх выводзілі з касцёла, што сімвалізавала выгнанне Адама і Евы з раю.

Перад святыняй пакутнікаў апраналі ў пакаянную вопратку, якую павінны былі насіць на працягу ўсяго Вялікага посту, і пасыпалі ім галовы попелам. Публічны характар пакаяння вынікаў з пераканання, што грэх ніколі не з'яўляецца асабістай справай чалавека, але ранай, нанесенай усёй супольнасці, і таму ў супольнасці павінна адбывацца і прымірэнне чалавека з Богам і братамі.

Аднак сам жэст пасыпання галавы попелам значна старэйшы. Яго ведалі таксама іншыя рэлігіі і культуры міжземнаморскага басейна. Знаходзім яго і на старонках Старога Запавету. У Бібліі гэта знак пакаяння, але і жалобы. Таму ў каталіцкай традыцыі ён суправаджаецца словамі, узятымі менавіта са Святога Пісання.





Момант пасыпання галоў попелам у гродзенскай катэдры

### ТЫ – ПРАХ, І Ў ПРАХ ВЕРНЕШСЯ

Попел – гэта нішто іншае, як рэшткі чагосьці, што перастала існаваць. Мы зроблены з пылу зямлі, і ў выніку ўсе ператвараемся ў яго. Гаворка ідзе не столькі пра страх смерці, колькі пра тое, каб вырвацца са сваёй паўсядзённай бегатні і ўсвядоміць пэўную асноўную, але часта намі забываемую ці ўвогуле адмаўляемую праўду: усё тое, да чаго так імкнёмся, – яшчэ не ўсё!

Тое, за чым я так ганюся, вельмі часта цаной свайго здароўя і абмежаваннем кантактаў з сям'ёй, тое, да чаго так імкнуся кожны дзень, не будзе трываць вечна. Аднойчы яно разваліцца, міне, зносіцца. Ёсць больш важныя рэчы, і менавіта на іх трэба нанова засяродзіцца. Вялікі пост – час перагледзець нашы прыярытэты.

### НАВЯРТАЙЦЕСЯ!

Попел сыпкі, лятучы. У чымсьці вельмі падобны да занятага чалавека. Перад нашымі старанна пабудаванымі міражамі аб уласнай вытрымцы і стойкасці, перад усякай спакусай самадастатковасці і самавыратавання гэтая купінка попелу павінна быць сімвалічным процiяддзем. Яна кажа нам: ты – прах, пясок, бедная гліна.

Нашы добрыя намеры і пастановы хутка развеюцца самі сабой, як попел на галаве. Толькі Бог можа надаць гэтаму пылу цвёрдасць скалы. Толькі Боскі Ганчар можа зляпіць з гэтай гліны надзейнае начынне для сваёй ласкі. Навяртайцеся! Што на мове Бібліі азначае "Змяняйце ваша мысленне!".

Вялікі пост – гэта час, каб змяніць сваё мысленне. Час, каб падумаць пра сябе, як пра прах, з якога толькі Бог можа зрабіць што-небудзь значнае. Каб убачыць, што ўсе мае намаганні і скокі ў выніку ператвараюцца ў попел. І толькі ў Божай руцэ ён можа стаць дыяментам.

### ВЕРЦЕ Ў ЕВАНГЕЛЛЕ!

Попел з'яўляецца астаткам пасля таго, што згарэла. Пасыпаны на галаву, ён нагадвае, што Пасха, да якой набліжаемся праз Вялікі пост, – гэта печ, Божы агонь. Кожны з нас мае сваю Пасху. Кожны праходзіць праз такую печ. Што з мяне ацалее? З маіх добрых намераў, набожных жаданняў? Колькі з маіх слоў, учынкаў і рашэнняў выстаіць у гадзіну суда?

Напэўна, няшмат. І тым не менш, гэта знак надзеі. Таму што не іду праз гэтую Пасху адзін. Іду з Хрыстом, які першым прайшоў для мяне гэты шлях. Евангелле – Добрая Навіна пра Яго пераможны пераход праз смерць да жыцця. Пра тое, што Ён мае моц адрадзіць мяне нават з купкі попелу. Ён першы падняўся з попелу смерці.

# ВЯЛІКІ ПОСТ У СЭРЦАХ МАЛЫХ

працяг са с. 1

*Ангеліна Марцішэўская*



*Сёлета прыйшла ідэя падрыхтаваць велікапосныя календары для дзяцей па прыкладзе Адвэнт-календароў. Працавала над імі цягам тыдня, у выніку атрымаўся камплект: асноўны плакат 30х40 см, плакат з заданнямі (абодва ламінаваныя), сцікеры ў выглядзе ножак і – у якасці бонусу – набор наклеек, якія бацькі могуць захаваць і падарыць дзіцяці на Вялікдзень.*

*Сэнс календара ў тым, каб, выканаўшы чарговае заданне, наклеіць "ножку" на плакат, і такім чынам за 40 дзён адноўленым "датупаць" да ўваскрослага Езуса. Пастановы падбірала так, каб засяродзіць духоўнае развіццё дзіцяці на асноўных момантах.*

*1. Прызвычайць вывучаць Біблію. Гэта дапаможа паверыць, што праўдзівыя менавіта галоўныя хрысціянскія падзеі, а не казкі пра Пасхальнага труса. У адным з заданняў трэба прачытаць урывак з Евангелля паводле св. Яна. Ён павінен зрабіць акцэнт на Радасная Навіне, не перагружаючы дзяцей мукай Хрыста.*

*2. Наблізіць да бацькоў праз супольнае выкананне заданняў: сумесную малітву або наведванне родных.*

*3. Трэніраваць сілу волі праз пэўныя адрачэнні і, разам з тым, рабіць дабро на карысць іншым.*




*4. Навучыць заўважаць сваю годнасць. На жаль, савецкі менталітэт, які ўсё яшчэ не знік, прызвычаіў дарослых больш крытыкаваць, чым хваліць сваіх дзяцей, таму некаторыя заданні дапамогуць ім усвядоміць сваю каштоўнасць.*

*5. Прымусіць больш гаварыць, а значыць і больш думаць пра таямніцу Уваскрасення. І як следства – лепш усвядоміць галоўную падзею гісторыі чалавецтва і наблізіцца да Бога.*

*Заданні размешчаны без нумароў, каб дзеці маглі падабраць адпаведную свайму настрою пастанову на кожны дзень. Каляндар разлічаны на дзяцей 4–11 гадоў.*

***Замовіць яго можна па тэлефоне: (8 033) 689-78-86 – або праз Instagram-акаунт "bucikbobo".***

***Бажэна Чарнецкая,***
*уладальніца інтэрнэт-крамы "Буцік БоБо"*

*У межах "CREDO" – хрысціянскага друку, мэтай якога з'яўляецца распрацоўка і распаўсюджванне метадычных матэрыялаў у працы з дзецьмі і моладдзю, – мы падрыхтавалі адмысловы буклет на Вялікі пост. Ён накіраваны на дапамогу падрастаючаму пакаленню ў лепшым перажыванні набажэнства Крыжовага шляху. Буклет змяшчае словы спеву, якім можна маліцца ў пераходзе ад адной стацыі да другой. Там жа знаходзяцца і ноты, каб тыя, хто ўпершыню бачыць тэкст малітвы, маглі самастойна навучыцца спяваць.*

*Таксама буклет змяшчае пранумараваныя малюнкі і адпаведныя да іх налепкі-пастановы, якія трэба наклеіць пад малюнкамі. Гэта пэўная дапамога і праца для дзяцей, якая выражаецца ў канкрэтных заданнях на Вялікі пост.*

*На нашу думку, такія распрацоўкі вельмі патрэбныя, бо з'яўляюцца добрай падказкай у перажыванні асаблівага літургічнага перыяду як з духоўнага, так і з практычнага бакоў. Спадзяёмся, з дапамогай нашага буклета хлопцы і дзяўчаты больш глыбока стануць будаваць свае адносіны з Езусам.*



***Замовіць буклет можна па тэлефонах: (8 029) 639-18-40 (кс. Станіслаў Вашкевіч); (8 033) 308-13-67.***

***Святлана Астасевіч,***
*супрацоўніца праекта "CREDO"*



***С. Міхаліна Маркевіч ОР,***
*катэхетка ў парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Мінску*

*Калі Адвэнт – час радаснага чакання, які, незалежна ад узросту, перажываць прасцей, у выпадку з Вялікім постам па дарозе да перамогі жыцця над смерцю чакае некалькі выклікаў. Гэта перыяд інтэнсіўнай працы над сабой і расшырэння сэрца.*

*Гаворачы пра якаснае перажыванне часу Вялікага посту ў жыцці дзіцяці, трэба разумець, што, як і ў многіх іншых сферах, вялізную ролю тут адыгрывае прыклад бацькоў. Гэта найбольш эфектыўна натхняе да змагання з сабой, да крокаў насустрач Богу. Цудоўна, калі дзіця дзеліцца з бацькамі загадзя, над якімі сваімі добрымі або кепскімі рысамі хацела б папрацаваць. Варта таксама з маленства разам чытаць і разважаць Божае слова, дзе крыецца ўся таямніца пакут і ўваскрасення Хрыста. Мама і тата могуць дапамагчы дзіцяці праводзіць паралелі паміж біблейскімі гісторыямі і ўласным жыццём, прымаць на гэтай аснове нейкія канкрэтныя рашэнні, шукаць адказы на нейкія ўласныя пытанні, маліцца Евангеллем.*

*У сваю чаргу Касцёл прапануе шмат велікапосных практык, якія могуць дапамагчы становіцца добрымі хрысціянамі і наблізіцца да Бога. Аднак дзяцей трэба прызвычаіць да іх адпаведным чынам.*

*Па-першае, пастановы на Вялікі пост. Варта растлумачыць дзецям іх сэнс. Напрыклад, самае папулярнае – не есці слодычаў. Трэба паразважаць, якім чынам можна гэта рабіць і які эфект для душы прынясе такое вырачэнне. На катэхезе мы з дзецьмі назвалі гэтую пастанову "Вочы, якія бачаць Бога ў іншых". Справа не ў тым, каб адмовіцца ад салодкага, а затым на Вялікдзень з'есці ўсе цукеркі і "лопнуць". Нашмат лепш аддаць ласункі тым, у каго іх няма. Напрыклад, падзяліцца (ці нават аддаць усё) з дзецьмі ў школе, якія не маюць магчымасці есці цукеркі. Быць можа, варта нават зрабіць гэта ананімна. Старэйшым дзецям, якім бацькі даюць кішэнныя грошы, можна прапанаваць замест пакупкі слодычаў для сябе купіць нейкую неабходную ежу патрабуючаму. Толькі, каб гэта было бяспечна для дзіцяці, варта папрасіць дапамогі ў кагосьці з дарослых.*

*Больш складаны выклік, для самых адважных – адмовіцца ад гульняў на мабільных прыладах і камп'ютэрах, а зносіны ў сеціве замяніць жывымі сустрэчамі і ўчынкамі. Тут таксама неабходна паказаць перспектыву, што вольны час варта выкарыстаць на спатканне з Богам і іншым чалавекам. Напрыклад, наведаць бабулю, якой бывае сумна сядзець адной у сваёй кватэры, або больш часу прысвяціць супольнай сямейнай малітве.*

*Па-другое, рэкалекцыі і Крыжовы шлях. У гэтых практыках варта ўдзельнічаць усёй сям'ёй. Для дзяцей прывабнасць набажэнстваў у значнай ступені залежыць ад таго, як яны арганізаваны. Дзіцяці лягчэй і цікавей прымаць у іх удзел, калі яно неяк асабіста ангажуецца. Напрыклад, можна зладзіць Крыжовы шлях з нейкімі сімвалічнымі прадметамі або малюнкамі, якія зрабілі самі дзеці. Гэта вельмі актывізуе іх удзел у малітве.*

*Па-трэцяе, Песні жальбы. Аднак, на маю думку, не варта змушаць дзіця да ўдзелу ў гэтым набажэнстве, калі яно не хоча. У малым узросце яму складана ўсвядоміць нават асноўны яго змест. Да гэтай практыкі трэба дарасці, і не кожнаму яна дапамога лепш перажыць таямніцу Уваскрасення.*

*Добра, што час Вялікага посту – гэта не толькі высілак з боку чалавека, тым больш малога, але таксама асаблівы час дзеяння самога Бога.*



***Святлана Пацук,***
*катэхетка ў парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

*У служэнні дзецям вельмі важна даступна данесці тую праўду, якую Госпад адкрыў усім нам, каб яна стала фундаментам іх жывой веры: Бог з-за любові да кожнага з нас пайшоў на крыж. Разважанні над гэтым навет дарослым даюцца цяжка, што ўжо казаць пра маленькіх вернікаў.*

*Вялікі пост мы перажываем раз у год, і паколькі дзеці прыходзяць на заняткі з пэўнымі ведамі, я заўсёды распачынаю гэтую тэму з велікапоснай віктарыны з некалькімі варыянтамі адказаў. Дзеці дзеляцца на групы і мусяць адказаць правільна на як мага больш пытанняў. Падобны занятак добры тым, што дазваляе ўбачыць, дзе хлопцы і дзяўчаты дапускаюць найбольш памылак, і далей зрабіць акцэнт на тлумачэнні гэтых момантаў.*

*Я заўважыла, што дзеці маюць цяжкасці з вывучэннем стацый Крыжовага шляху. Для палягчэння запамінання і пабудовы лагічнага ланцужка выкарыстоўваю асацыяцыі. Найлепш з гэтым спраўляецца фільм Мэла Гібсана "Страсці Хрыстовы", які глядзелі ўсе ад малога да вялікага. Пасля прагляду прапаную хлопчыкам і дзяўчынкам прыгадаць асноўныя падзеі Крыжовага шляху, а ўжо затым лагічна разважаць над іх зместам, ставячы паслядоўна ў ланцужок. У завяршэнне яны рашаюць галаваломкі: супастаўляюць нумары стацый і іх назвы.*

*Для дзяцей важна нагляднасць. Набліжаючыся да 5-ай нядзелі Вялікага посту, калі Касцёл разважае над крыжом, ранамі і пакутамі Хрыста, я даю вучням адмысловае хатняе заданне: з падручных сродкаў разам з бацькамі зрабіць вянок з церня. Затым падчас занятку да "кароны" прымацоўваем папяровыя загатоўкі ў выглядзе кропель крыві з надпісамі – за што хочам прасіць прабачэння ў Езуса. Гэтую ж "карону", а таксама розгі, кайданы і крыж выкарыстоўваем для дэкарацый на 5-ую нядзелю Вялікага посту. Усе намацальныя сімвалы дапамагаюць дзецям разважаць над мукай Хрыста.*

*Калі тлумачу хлопцам і дзяўчатам пра крыж Збаўцы, акцэнтую ўвагу не толькі на болю, ранах і пакутах, але на Яго любові да кожнага чалавека. Любові, з-за якой аддаў самае каштоўнае – сваё жыццё. Прапаную дзецям зірнуць на крыж і пытаюся, ці ведаюць яны, як моцна Езус любіць іх? Калі хтосьці адмоўна махае галавой, падыходжу да яго з распяццем і кажу: "Глядзі, нават прыбіты да крыжа, Хрыстос цягне да цябе распасцёртыя рукі, каб абняць". Пасля гэтай фразы заўсёды наступае маўчанне. Хтосьці ўглядаецца ў крыж, хтосьці абдымае яго, а хтосьці плача...*

АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

## Жанчына ўпершыню стала намесніцай сакратара Сінода Біскупаў

У Ватыкане паведамілі, што папа Францішак прызначыў двух намеснікаў Генеральнага сакратара Генеральнага сакратарыята Сінода Біскупаў.

Новымі падсакратарамі сталі іспанскі аўгусцініянін а. Луіс Марын дэ Сан-Марцін – да нядаўняга памочнік генерала Ордэна Святога Аўгусціна, які быў узведзены ў сан біскупа, і французская манахіня с. Наталі Бэкар з Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак св. Ксавэрыя – былы дырэктар Нацыянальнай службы евангелізацыі моладзі і пакліканняў Канферэнцыі Біскупаў Францыі.

Кардынал Марыё Грэк, Генеральны сакратар Сінода Біскупаў, назваў прызначэнні вельмі важным крокам ва ўмацаванні сінадальнай структуры і новым імпульсам да большай сінадальнасці і місійнасці Касцёла.

## Папская радыёстанцыя запускае паўнавартаснае інтэрнэт-радыё

У сваё 90-годдзе Ватыканскае радыё запускае паўнавартаснае інтэрнэт-радыё. Стартуюць італьянскі, нямецкі, французскі, англійскі, іспанскі, партугальскі і армянскі каналы.

На працягу года будзе створана яшчэ амаль 30 моўных каналаў, якія можна будзе слухаць як на сайце Ватыканскага радыё, што развіваецца адначасова з "Vatican News", так і ў аплеце "Radio Vaticana" для смартфонаў. Апрача навін, у праграме будзе шмат музыкі і літургія на лацінскай мове. Ватыканскае радыё заўсёды "размаўляла" на многіх мовах, але асобных моўных каналаў не было.

Цяпер трансляцыя адбываецца праз спадарожнік, DAB+, лічбавыя радыёканалы, інтэрнэт і, вядома, кароткія хвалі.

## Часопіс езуітаў "La Civiltà Cattolica" ў рускай версіі

Езуіцкі часопіс "La Civiltà Cattolica" будзе выходзіць на яшчэ адной мове – рускай. "La Civiltà Cattolica" – каталіцкі двухтыднёвік, заснаваны ў 1850 годзе, які выдаецца ў Рыме езуітамі і цесна супрацоўнічае са Святым Пасадам. Займаецца актуальнымі сацыяльнымі, культурнымі і рэлігійнымі праблемамі.

Часопіс спрабуе дапамагчы сваім чытачам зразумець культуру і традыцыі розных народаў і прытрымлівацца рэчаіснасць у святле веры. У цяперашні час, акрамя італьянскай, існуюць і іншыя моўныя версіі, у тым ліку кітайская і японская.

## Малітоўныя інтэнцыі на сакавік

### паўсюдная

Молімся, каб мы перажывалі сакрамант паяднання з абноўленай глыбінёй, каб цешыцца бясконцай Божай міласэрнасцю.

### дыяцэзіяльная

Молімся, каб Пан благаславіў тых, хто здзяйсняе ўчынкі міласэрнасці, і дазволіў ім эфектыўна дапамагаць іншым.

ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# ЖЫЦЦЁ ПРАЖЫЦЬ – НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ...

Аліна Грынчук

*Няверуючыя чакаюць цудаў ад Бога, а Ён здзяйсняе іх нястомна – патрэбна толькі распазнаць. Ці ж не цуд, калі на сваім шляху сустракаеш звычайнага чалавека? Пра такога кажуць: "Гэта Божы чалавек".*

*Сучасны свет ганарыцца таленавітымі зоркамі, імёны якіх заўсёды на слыху. Добра было б, каб і ў Божай справе часцей былі на вуснах імёны простых вернікаў, на першы погляд мала чым прыкметных. Хтосьці прамовіць у адказ, што вернікі не выхваляюцца. Так! Але звяртаюць на сябе ўвагу, будучы незвычайнымі людзьмі.*

*Парафіянка Альфрэда Трон служыць Богу пры францысканскім касцёле св. Яна Хрысціцеля ў аграгарадку Гальшаны. У свае 82 гады вельмі жвавая і рухавая жанчына, нават не кожная маладзіца за ёю паспее. Свой крыжовы шлях зямнога жыцця верніца пачала з актыўнага ўдзелу ў адраджэнні і станаўленні Касцёла падчас атэізму, калі савецкая ўлада руйнавала і зачыняла святыні, каб знішчыць хрысціянскую цывілізацыю.*

*У сэрцы добрай парафіянкі адгукнуўся заклік святога папы Яна Паўла II: "Не бойцеся! Адчыніце сэрцы Хрысту". Жанчына не думала аб пагрозах мясцовай улады, якая магла пазбавіць яе сям'ю апошняга кавалка хлеба, бо ведала, што Бог не пакіне. У нястомнай барацьбе за права дзейнасці Касцёла спадарыня Альфрэда арганізавала мясцовых жыхароў у супольнасць. З дапамогай ксяндзоў з суседніх парафій быў адпраўлены ліст да Папы Рымскага аб вырашэнні праблемы.*

*Так наступілі пазітыўныя змены, якія адчынілі дзверы святыні. У 1990 годзе на касцёльным двары была цэлебравана доўгачаканая першая св. Імша. А потым пачаліся рэстаўрацыйныя работы ўнутры і звонку будынка, паколькі яго стан пасля адкрыцця быў плачэўным. І тут парафіянка Альфрэда не сядзела склаўшы працавітыя рукі. Круцілася, як вавёрка ў коле. Быў створаны Касцёльны камітэт. Кожны займаўся ў пэўным напрамку. Вядома ж, спатрэбіліся і фінансавыя сродкі на будаўнічы матэрыял. Жанчына пайшла па сем'ях, каб парафіяне ахвяравалі на рамонт. Спраўлялася і з хатняй гаспадаркай. Год цапляўся за год, і нарэшце стала здавацца, што галоўныя цяжкасці адышлі ў бок.*

*Аднак далей спадарыню Альфрэду чакалі новыя выпрабаванні. Памёр муж, а следам за ім адышла з гэтага свету і дачка. На плечы гаротнай жанчыны лёг цяжар па выхаванні сына і дзяцей дачкі Ганны.*

*Колькі бедалазе прыйшлося пражыць... Але верніца штодня малілася да Найсвяцейшай Тройцы і Панны Марыі, каб вытрымаць удары зла і няшчасцяў. І Бог узнагародзіў добрую парафіянку: дзеці жывуць у дастатку, адзін з унукаў вывучыўся на святара, дом уладкаваны, ды і здароўе дазваляе верніцы служыць Богу побач з пробашчам а. Багуславам. З вялікай адказнасцю выконвае любыя касцёльныя паслугі, бо паважае і захапляецца сваім душпастырам, які з мудрай патрабавальнасцю адносіцца да сябе і да іншых.*

*Сёння ад многіх можна пачуць, што жыццё праляцела ў адно імгненне. А для верніцы Альфрэды Трон жыццё пражыць – не поле перайсці...*

ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПАЎДНЁВАЯ КАРЭЯ.** У Сеуле кардынал Андрэ Ём Су Чжун удзяліў прэзбітэрскія пасвячэнні 20-ці дыяканам. Сярод новых ксяндзоў ёсць таксама будучы місіянер, накіраваны на працу ў Лацінскую Амерыку. Пасвячэнні адбыліся з захаваннем санітарных абмежаванняў, уведзеных з-за пандэміі Covid-19. У цэлебрацыі ўдзельнічалі бацькі новапрэзбітэраў, іх пробашчы, а таксама дапаможныя біскупы і некалькі іншых канцэлебрантаў.

**ІТАЛІЯ.** Беатыфікацыя суддзі Расарыё Лаваціна адбудзецца 9 мая ў катэдральнай базіліцы Агрыджэнта на Сіцыліі. Юрыст быў забіты мафіяй 21 верасня 1990 года, а 22 снежня мінулага года папа Францішак абвясціў яго мучанікам. "Дата беатыфікацыі была абвешчана арцыбіскупам Агрыджэнта кардыналам Франчэска Монтэнэгра і арцыбіскупам коад'ютарам Алесандра Даміяна ў канцы сустрэчы, якая адбылася ў зале Яна Паўла II у Палацы арцыбіскупа ў Агрыджэнта. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадзянскай, касцёльнай і судовай улады правінцыі і муніцыпалітэтаў Канікаці і Агрыджэнта", – паведамляецца ў каталіцкім часопісе "Avvenire". 9 мая стане датай, цесна звязанай з постацю суддзі Лаваціна, але таксама са св. Янам Паўлам II і яго візітам у Агрыджэнта ў 1993 годзе.

**МАДАГАСКАР.** А. Педра Апека, які больш за 30 гадоў працуе на Мадагаскары, быў наміняраваны на Нобелеўскую прэмію міру. Ён распачаў вялікую справу "Акамасоа" – Горад дружбы, стараючыся забяспечыць там лепшае жыццё сем'ям, якія жылі на сталічнай звалцы. Кандыдатуру каталіцкага місіянера прапанаваў прэм'ер-міністр Славеніі. А. Педра Апека – аргентынец са славенскімі каранямі. Ён належыць да Кангрэгацыі Ксяндзоў Місіянераў, называнай у народзе лазарыстамі. Яе мэта – перайманне Хрыста, які прапаведуе Евангелле бедным. Горад дружбы паўстаў у 1989 годзе, калі айцец пераканаў 70 сем'яў пакінуць звалку і стварыць разам з ім новую вёску ў раёне, ахвяраваным уладамі.

**РЫМ.** Касцёл св. Калікста ў Рыме стаў прытулкам для бяздомных на перыяд зімовых халадоў. Супольнасць св. Эгідзія, якая размяшчаецца побач, зладзіла ў гэтым невялікім храме 15 "пакояў", у якіх патрабуючыя могуць пераначаваць. Спачатку бяздомныя праходзяць тэст на наяўнасць COVID-19, ім вымяраецца тэмпература і выдаецца ахоўная маска. Таксама прадугледжаны вячэра і сняданак. Падобныя прытулкі супольнасць св. Эгідзія арганізавала таксама ў іншых месцах Рыма.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# СЕЛІВАНАЎЦЫ

працяг са с. 1

Андрэй Вашкевіч

Сярод маляўнічых узгоркаў, прыкладна пасярэдзіне паміж мястэчкам Сапоцкін і Нёманам, знаходзіцца касцёл у Селіванаўцах. Будаўніцтва святыні было скончана ў 1840-ых гадах, але пачыналася гісторыя гэтай парафіі ў маленькай мясцовасці Гожка, якая некалькі стагоддзяў выконвала функцыю занёманскага фальварка парафіі ў Гожы. Цяпер тут, каля вёскі Лінкі, толькі густы лес, у якім захаваліся парэшткі могілак, месца, дзе да сярэдзіны XIX стагоддзя стаяла драўляная капліца, ды некалькі старых дубоў, што паступова разбураюцца ад маланак і навальніц.

Актыўнае засяленне гэтых мясцін пачалося ў канцы XV стагоддзя. У той час згадваецца мясцовасць Монькавае – цяперашняя вёска Монькаўцы, а побач з ёй паўстаў фальварак Гожка. Тут адпраўлялі рэлігійныя патрэбы і хавалі людзей, якія жылі ў той частцы парафіі ў Гожы, што знаходзілася на левым беразе Нёмана. Бо перабрацца праз Нёман да парафіяльнага касцёла было часам – асабліва вясной і восенню – вельмі няпроста.

У 1771 годзе ўладальнік маёнтка Белыя Балоты Ян Марос ахвяраваў 6 000 тынфаў касцёлу езуітаў. Калі ж праз паўтары гады ордэн езуітаў быў скасаваны, Марос вырашыў на гэтыя грошы заснаваць каталіцкі касцёл ва ўласнай вёсцы Селіванаўцы. 31 сакавіка 1775 года, атрымаўшы дазвол ад віленскага біскупа Ігнацыя Масальскага, ён пабудаваў святыню "са старога дрэва". Згодна з фундушам 1775 года, мясцоваму касцёлу надавалася тры валокі зямлі, а Гожская парафія атрымлівала, дадаткова да фундацыі 1494 года, яшчэ 6 000 тынфаў на ўтрыманне новага прыхода. Першапачаткова ён з'яўляўся філіяй старажытнага касцёла ў Гожы, што размяшчаўся на другім баку Нёмана. Але фундатары Маросы не заўсёды заставаліся задаволенымі тымі вікарнымі ксяндзамі, якіх зацвярджаў гожскі пробашч, і хацелі вызначаць святароў згодна сваёй волі. У той жа час ксёндз з Гожы не жадаў пазбаўляцца права карыстацца сродкамі з фундуша Маросаў, таму справа ішла марудна. У 1792 годзе, разам са сваімі суседзямі-землеўладальнікамі, Маросы падалі прашэнне на імя біскупа Масальскага з прапановай утварыць асобную незалежную парафію ў Селіванаўцах. Утрыманне парафіяльны пробашч павінен быў мець або грашыма, або за кошт працэнтаў са сродкаў, укладзеных Маросамі, або за кошт дзесяціны, якую мясцовыя паны павінны былі выплочваць Гожскай парафіі. Згода біскупа была атрымана, і фактычна ў 1793 годзе касцёл у Селіванаўцах стаў парафіяльным. Але афіцыйна падпісаць дакумент не паспелі, бо пачалося паўстанне, а біскуп Масальскі, удзельнік Таргавіцкай канфедэрацыі, быў у 1794 годзе павешаны патрыётамі ў Варшаве за здраду.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай новая мяжа Прусіі і Расіі падзяліла парафію ў Гожы. Частка на правым беразе Нёмана ад гэтага моманту складала парафію Гожа ў Расійскай Імперыі, а на левым – аказалася пад уладай прусаў. Яе цэнтрам акурат і стала Гожка. Парафія была зацверджана прускімі ўладамі ў 1798 годзе. Калятарам прызначылі Яна Мароса. Калятары апекаваліся парафіяй, дапамагалі вырашаць яе матэрыяльныя праблемы, але за гэта мелі вялікі ўплыў на мясцовых пробашчаў. Марос надалей вельмі хацеў перанесці цэнтр парафіі ў Селіванаўцы, дзе выдзеліў зямлю пад новыя могілкі, таму на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў парафія атрымала назву Гожска-Селіванаўскай.

Першы касцёл у Селіванаўцах праіснаваў нядоўга. Набажэнствы адбываліся там толькі да 1795 года. Дакладна невядома, што стала прычынай знікнення храма. Рэлігійнае жыццё новага прыхода зноў вярнулася ў капліцу на тэрыторыі фальварка Гожка. Была гэта даволі вялікая пабудова і ў часы панавання Прусіі на сродкі сям'і Маросаў тут праводзіліся рамонтныя працы.

Крытая саломай драўляная капліца была добраўпарадкаванай і выглядала, згодна тагачасным інвентарам, даволі салідна. Званіцы каля капліцы не было, і званы часова размяшчаліся на соснах, што раслі недалёка на старых могілках. Побач знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы, у тым ліку бровар і новы будынак плябаніі. У старой плябаніі была школа на 30 вучняў. Парафіі належала таксама карчма каля вёскі Плябанская. У касцёльнай уласнасці знаходзіліся вёскі Плябанская і Лінкі, агульнай колькасцю 12 гаспадароў, якія павінны былі выконваць 1 250 дзён коннай ды пешай паншчыны.

Новы храм у Селіванаўцах быў дабудаваны з бутавага каменю і цэглы ўнукам Я. Мароса Войцехам Сабалеўскім у 1840-ых гадах. Касцёл Перамянення Пана ўяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты двусхільным дахам. Франтон паўночнага фасада ўсечаны, над ім мураваная званіца з чатырохсхільным дахам. Галоўны фасад упрыгожаны дзвюма прызначанымі пад скульптуры нішамі і круглымі люкарнамі над імі. Цікава, што дакументы пацвярджаюць мясцовую легенду аб тым, што першапачаткова касцёл планавалася збудаваць значна большым.



*Парафіяльная святыня ў Селіванаўцах*

Пасля паўстання 1863–1864 гадоў і ліквідацыі Уніі ў 1875 годзе становішча парафіі было складаным, але ажно да 1905 года яна працягвала заставацца галоўным цэнтрам каталіцтва ў краі. У яе склад уваходзілі вёскі Монькаўцы, Навасады, Белічаны, Селіванаўцы, Плябанскія, Плоскаўцы, Лінкі, Войтаўцы, Кодзеўцы, Яцвязь, Баля Каўнацкая.

У 1909–1915 гадах кс. Варкала пабудаваў новую драўляную плябанію, пабяліў касцёл, набыў арган і абгарадзіў могілкі. Перад самай II Сусветнай вайной намаганнямі кс. Казіміра Срэдніцкага была пабудавана цяперашняя мураваная плябанія, дзе пры савецкай уладзе месцілася пачатковая школа. Апошнім сталым пробашчам тут быў кс. Уладзіслаў Красоўскі (1956–1962 гады) з парафіі Гальнка, які прыехаў сюды пасля сібірскай ссылкі. Пасля яго смерці касцёл дзейнічаў без ксяндза. Нармальнае парафіяльнае жыццё тут наладзілася толькі ў 1990 годзе.

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ХАРЧАВАННЕ Ў ВЯЛІКІМ ПОСЦЕ

**Якія стравы належыць спажываць у час Вялікага посту? Ад чаго трэба адмовіцца і ў які дзень неабходна пасціць?**

*А. Аркадзь Куляха OCD*










Для многіх людзей пост звязаны, у першую чаргу, з абмежаваннямі ў спажыванні ежы і напояў, што не ў поўнай меры выражае яго значэнне і дух. Касцёл кожны год прыгадвае пра неабходнасць глыбокага перажывання Вялікага посту як часу аднаўлення і навяртання, але найперш – часу для здзяйснення ўчынкаў любові, каб паўнавартасна ўдзельнічаць у пасхальнай таямніцы смерці і ўваскрасення Пана Езуса, якія не з'яўляюцца толькі падзеямі з мінулага, але рэалізуюцца і актуалізуюцца зараз.

Папа Францішак у адгартацыі "Christus Vivit" нагадвае, што Хрыстос, які ёсць Любоў, жыве і нястомна збаўляе чалавека, напаўняючы святлом яго жыццё. Вялікі пост – гэта перыяд, які павінен дапамагчы падрыхтавацца да сузірання шчаслівага, радаснага Хрыста, які жыве і з'яўляецца Сябрам, які перамог і прагне далей перамагаць у сваім Містычным Целе – Касцёле, г. зн. у кожным ахрышчаным.

Каб добра перажыць Вялікі Пост, неабходна прыглядзецца, як правеў гэты час сам Збаўца Езус Хрыстус. Наш Пан на працягу 40-ка дзён падвяргаўся выпрабаванням у трох сферах чалавечых жаданняў: фізічныя патрэбы, жаданне ўлады і валадарання, а таксама зямная слава. Мы ведаем, што Хрыстос перамог д'ябальскія спакусы і нанова ўвёў стварэнне ў сад каmуніі з Богам. Такім чынам, бачым, што абмежаванні ў ежы, а ў выпадку Езуса поўная адмова ад яе спажывання, – не адзіная сцежка посту і пакаяння.

У катэхізісе чытаем, што ўнутранае пакаянне хрысціяніна можа мець розныя формы. Святое Пісанне і Айцы Касцёла вылучаюць тры: пост, малітву і міласціну, якія выражаюць навяртанне ў адносінах да сябе, да Бога і да іншых людзей. Таму аптымальна і карысна было б пражываць Вялікі пост ва ўказаных вымярэннях. Абмежаванне толькі ўстрыманнем ад ежы, без навяртання сэрца і ўнутранага пакаяння, можа застацца неэфектыўным і нават марным. Таксама варта памятаць, што менавіта ўнутранае навяртанне, як вучыць катэхізіс, падштурхоўвае да выяўлення посту праз бачныя знакі, жэсты і пакаянныя ўчынкі.

Для вернікаў Каталіцкага Касцёла абавязковыя пэўныя перыяды і дні пакаяння на працягу літургічнага года. Асаблівым часам для пакаяннай практыкі з'яўляецца Вялікі пост і кожная пятніца (акрамя ўрачыстасцей) як успамін смерці Езуса. Гэтыя дні асабліва прыдатныя для духоўных практыкаванняў, пакаяннай літургіі, пакаянных паломніцтваў, добраахвотных ахвяр, такіх як пост і міласціна, а таксама для братэрскага дзялення з іншымі (дабрачынныя і місіянерскія справы). Такім чынам, мы бачым, што пост адносна ежы – не адзіная і не самая важная форма перажывання рэкамендаваных Касцёлам дзён і перыядаў пакаяння.

Распачынаючы бягучы літургічны перыяд, варта ведаць, як практыкаваць пост і ўстрыманне. Два гэтыя паняцці не з'яўляюцца адназначнымі. У Папяльцовую сераду і Вялікую пятніцу трэба захоўваць пост (называны таксама сцісłым), а ў кожную пятніцу абавязвае ўстрыманне (ад мяса). Пост (сцісły) на дакладный тэалагічнай мове – гэта не толькі адмова ад ужывання мяса, але і скарачэнне колькасці спажываных пасілкаў да аднаго разу да сыта ў дзень. Калі чалавек не здольны так пасціць, ён можа ўжыць трохі ежы ў іншы час. У якасці ілюстрацыі можна выкарыстаць практыку манастыроў ці семінарый, дзе ў дні сціслага посту можна з'есці абед з адной стравы (з магчымасцю дабаўкі) і штосьці сціпла перакусіць у рамках сняданку і вячэры. Многія вернікі наогул не ядуць у гэтыя дні.

Устрыманне азначае неўжыванне мяса, страў з яго дадаnнем (напрыклад, супу з фрыкадэлькамі, булёну), мясных нарыхтовак (напрыклад, катлет, каўбас, тушонак, шкварак) і не ўключае тлушчы жывёльнага паходжання, яйкі, малочныя прадукты і г. д. Тут варта ўзгадаць пра папулярнае ў нашай краіне салёнае сала. Гэта мясная страва, аднак тлушч, атрыманы пасля таплення сала, можна есць і па пятніцах. Устрыманне (па пятніцах) абавязковае для вернікаў, якія дасягнулі 14-гадовага ўзросту, а пост (сціслы) у Папялец і Вялікую пятніцу абавязаны захоўваць католікі ва ўзросце 18–60 гадоў.

Штогод падчас Вялікага посту вернікі прымаюць розныя пастановы, мэта якіх заключаецца ў імкненні да дасканаласці. Рашаючыся на адмову ад ежы, варта прызначыць "зэканомленыя" грошы патрабуючым. У якасці натхнення можа служыць прыклад семінарыі ў Пінску, дзе алюмны ў межах велікапосных адмоў збіралі грошы на "Карытас".

Гімн Літургіі гадзін вучыць: "Будзем жа сціплымі ў словах, ежы, піцці, сне і жартах, каб гэты час у малітвах мы правялі дзеля Бога". Чытачам "Слова Жыцця" я жадаю добрага перажывання Вялікага посту і шчодрага благаслаўлення на Велікодныя святы.

# ПЕСНІ ЖАЛЬБЫ – ТАКОЕ ПАТРЭБНАЕ НАБАЖЭНСТВА ДЛЯ ЎСІХ, А АСАБЛІВА ДЛЯ МОЛАДЗІ...

*Кс. Павел Раманоўскі*



Распачаўся перыяд Вялікага посту – час пакаяння, ачышчэння і навяртання. Ён нам вельмі патрэбны, каб добра падрыхтавацца да цэлебрацыі Пасхальнай таямніцы – Мукі, Смерці і Уваскрасення Езуса Хрыста. Вялікі Пост неабходны, каб гэтыя падзеі, перажываемыя ў літургіі Святога Пасхальнага Трыдуумуу, дапамаглі нам атрымаць ласкі, якія Бог прагне ўдзяліць кожнаму, каб святкаванне Вялікадня было не толькі знешнім, але суправаджалася сапраўднай хрысціянскай радасцю, большай верай, сталай надзеяй і чысцейшай любоўю да Бога і бліжняга. Гэта няпростая задача. Хрысціянства – нялёгкі шлях. Недастаткова проста належаць да Касцёла і дазваляць часу ісці сваім ходам.

Часта юнакі і дзяўчаты пытаюцца ў святароў і катэхетак: "Чаму ў Вялікім посце нельга слухаць музыку? Несправядліва пазбаўляць нас радасці жыцця і нічога не даваць узамен. Немагчыма ж чалавеку жыць у пустаце".

"[...] у перыяды пакаяння не ўдзельнічаць у забавах" – другую частку чацвёртага касцёльнага наказу належыць разумець як устрыманне ва ўсе дні Вялікага посту, а таксама ва ўсе пятніцы года, ад удзелу ў вяселлях, дыскатэках, канцэртах, танцах, так званых "карпаратывах", ад прагляду забаўляльных фільмаў і тэлевізійных праграм, слухання забаўляльнай музыкі і да т. п. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў пункце 2043 сцвярджае, што такія абмежаванні маюць на мэце апанаванне чалавекам інстынктаў і спрыяюць большай свабодзе сэрца.

Падчас XX Сусветных дзён моладзі ў Кёльне 18 жніўня 2005 года Папа Рымскі Бенедыкт XVI сказаў: "Дарагая моладзь! Хрыстос нічога не забірае з таго, што ў вас прыгожае і велічнае, а вядзе ўсё да дасканаласці для славы Божай, шчасця людзей, збаўлення свету". Касцёл у сваёй шматвяковай мудрасці ў імя Божае наказвае сваім вернікам, асабліва маладым, устрымлівацца ад свецкіх забаў, якія прыносяць хутка мінаючую радасць, а часта нават вядуць да граху, каб звярнуць увагу на рэчы больш дасканалыя, прыгожыя, велічныя і вельмі карысныя для душы чалавека. ***Ці ў перыяд Вялікага Посту ў касцёлах няма спеваў і музыкі?*** Ёсць, але яны носяць пакутны характар.

У Бібліі існуе дзве асноўныя прычыны для спеву: радасць і нядоля (параўн. кард. Ё. Ратцынгер, Дух Літургіі). На ўсякую рэч ёсць свая пара і закон (параўн. Экл 8, 6). "Ці могуць быць у жалобе госці на вяселлі, пакуль з імі жаніх? Але прыйдуць дні, калі будзе забраны ад іх жаніх, і тады будуць пасціць" (Мц 9, 15). У Вялікім посце Касцёл прапануе нам узамен устрымання ад свецкай музыкі і песень літургічныя спевы, пакаянныя набажэнствы (Крыжовы шлях, Песні жальбы).

На апошнім з узгаданых набажэнстваў хацеў бы ў гэтым артыкуле больш падрабязна затрымацца. У адрозненне ад набажэнства Крыжовага шляху, якое ўзнікала ў першыя стагоддзі хрысціянства і з'яўляецца шырока распаўсюджаным ва ўсім Каталіцкім Касцёле, Песні жальбы ўзніклі ў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі і хутка сталі адным з найбольш папулярных набажэнстваў менавіта на нашых землях.

***Якія ласкі мы можам атрымаць, спяваючы і разважаючы з верай і набожнасцю тэксты Песень жальбы, а таксама слухаючы падчас гэтага набажэнства пакутныя казанні, як гэта рабілі нашы продкі?***

Веруючыя людзі прагнуць добра, непаўярхоўна маліцца, прабываць у жывых адносінах з жывым Богам. Кардынал Роберт Сарах у сваёй кнізе "Ужо набліжаецца вечар і дзень ужо заканчваецца" вельмі радыкальна заахвочвае вернікаў да такой малітвы: "Калі мы не прысвяцім час, каб услухацца ў біццё Сэрца нашага Бога, то пакінем Яго, здрадзім Яму".

Песні жальбы ***вучаць нас малітве пакаяння:*** "Вось грэх мой перад Табою, змый яго святой крывёю. У бяздонні мукаў Пана я з правін сваіх паўстану" (Натхненне, 9).

Песні жальбы ***ўводзяць у асабістую размову з церпячым Езусам:*** "Езу, ланцугамі цяжкімі Ты, нібы злодзей, быў ноччу звязаны, Езу, мілы Пане" (Частка I: Плач душы над церпячым Езусам, 6).

Таксама мы ***вучымся з дзіцячым даверам прасіць Маці Божую аб заступніцтве:*** "Раны Сына, о Марыя, жыватворныя, святыя, мне на сэрца пакладзі" (Частка II: Размова душы з Маці Балеснай, 2).

Памятаю, калі я быў студэнтам універсітэта і ў 2001–2003 гадах прыходзіў вечарамі на нядзельныя набажэнствы Песень жальбы ў гродзенскі фарны касцёл, мяне вельмі ўзрушвалі г. зв. пакутныя казанні, якія прамаўлялі святары. Апісанне і разважанне Мукаў Хрыстовых дапамагала ясна ўбачыць свае грахі і недасканаласці, а таксама абудзіць сапраўднае раскаянне за іх і атрымаць патрэбныя ласкі для выпраўлення. Калі мы маем праблемы з заўважаннем нашага зла, калі бачым свой фармалізм у адносінах да споведзі, то набажэнства Песень жальбы з пакутнымі казаннямі – ***выдатнае лякарства, каб вярнуць сабе ўражлівасць да духоўнай рэчаіснасці!***

Спяванне тэкстаў Песень жальбы ***дазваляе, з дапамогай Божай ласкі, правільна фарміраваць свае чалавечыя пачуцці.*** Калі нашу душу агорне смутак – пойдзем з ім да Бога, які ведае яго горыч і які дае суцяшэнне. Калі ўбачым цярпенні іншых людзей – гэтак жа будзем спачуваць ім, як і церпячаму Езусу, раскажам Яму аб цяжкасцях гэтых людзей, папросім аб мудрасці, як правільна дапамагчы ім. Калі заўважым сваю няўдзячнасць, успомнім усё тое, што Езус учыніў для нашага збаўлення!

Як заўважаюць бацькі, настаўнікі і выхавацелі, катэхеты і святары, свет лічбавых тэхналогій і іншыя дасягненні цывілізацыі, што спрыяюць камфорту, робяць людзей, асабліва маладых, усё больш абыякавымі да іншых, замыкаюць у вузкім коле асабістых інтарэсаў. Набажэнства Песень жальбы можа стаць адным з элементаў шляху вяртання да ***большай увагі да аднаго, да міласэрнай зацікаўленасці праблемамі іншых.***

На працягу стагоддзяў настаўнікі духоўнага жыцця Каталіцкага Касцёла заахвочвалі вернікаў разважаць Муку Хрыстову, каб атрымаць сілы і мець магчымасць мужна перажываць жыццёвыя цяжкасці і цярпенні ў адзінстве з цярпеннямі Хрыста і Яго Маці. "Мука Хрыстова, умацуй мяне", – молімся ў малітве "О Душа Хрыстова". ***Песні жальбы таксама спрыяюць такому ўмацаванню.***

***Як дапамагчы сучаснай моладзі перамагчы мінімалізм і ляноту, якія ўсё больш распаўсюджваюцца?*** Заахвочваць іх, між іншым, падчас Вялікага посту прыходзіць рэгулярна на набажэнствы Песень жальбы.

Жадаю Божага благаслаўлення, адпаведных слоў і добрага прыкладу ў гэтым для бацькоў і выхавацеляў! Катэхетам – мудрасці і ўмеласці, каб паказаць дзецям і моладзі карысць удзелу ў гэтым набажэнстве. Святарам – святла Святога Духа падчас пакутных казанняў. І ўсім нам – шчырай, глыбокай, набожнай малітвы і сапраўднага навяртання!

# КС. АНДРЭЙ КЕЎЛІЧ: “ПАЧАЦЬ ПРЫХОДЗІЦЬ НА СВ. ІМШУ МІНІМУМ ЗА 15 ХВІЛІН”

працяг са с. 1

**Пра літургію сёння размаўляю з кс. Андрэем Кеўлічам, ураджэнцам Мастоўшчыны і пробашчам парафіі Маці Божай Бялыніцкай у Горках на Магілёўшчыне.**

Арцём Ткачук

### БАГАЦЦЕ ЛІТУРГІІ Ў КАСЦЁЛЕ НАСТОЛЬКІ ВЯЛІКАЕ, А Я ТАК МАЛА ВЕДАЮ

***– Вы служыце святаром ужо амаль 10 гадоў. Як Вам бачыцца ўласная вандроўка з літургіяй? Якой яна была? Напэўна, адносіны змяняліся ўвесь час?***

– Так, яны змяняліся і надалей змяняюцца. Гэта сталы працэс. Спадзяюся, ён ніколі не спыніцца на нейкім узроўні.

Мой шлях з літургіяй пачаўся ўжо ў семінарыі, дзе прадугледжана паглыбленая літургічная фармацыя. Аднак калі там задаваць шмат пытанняў, то можна і не давучыцца (*смяецца – заўв. аўт.*). Таму многія літургічныя пытанні ўсё роўна заставаліся нявысветленымі.

Калі атрымаў святарскае пасвячэнне, першай маёй парафіяй стала Вілейка. Там я пачаў шмат чытаць пра тое, як мусіць выглядаць літургія. І хутка ўсвядоміў, што павінна быць не так, як адбываецца ў многіх парафіях. Такім чынам, толькі на першым годзе святарства я адкрыў, што багацце літургіі ў Касцёле настолькі вялікае, а я так мала ведаю! Узнікла пытанне: “Як я магу быць такім святаром? Як магу цэлебраваць св. Імшу і не ўсведамляць, што па-сутнасці адбываецца?”. Усё-такі св. Імша – гэта самае частае і асноўнае, з чым сутыкаецца і святар, і вернік. Вось, напрыклад, думалася, ці трэба цэлебраваць св. Імшу, калі няма людзей. І Касцёл у сваім навучанні на гэтыя пытанні адказвае.

***– А што Вас штурхала да паглыблення ведаў, чытання пра св. Імшу?***

– Спадзяюся, гэта Хрыстос падштурхоўваў мяне (*смяецца – заўв. аўт.*). Увогуле, пытанні ўзнікаюць і падчас цэлебрацыі св. Імшы, але з гэтым трэба ваяваць, трэба канцэнтравацца на літургіі. А таксама (нават у большай ступені) падчас падрыхтоўкі да св. Імшы, бо, трэба прызнацца, спачатку яна ў мяне адсутнічала ўвогуле. То-бок у семінарыі з гэтым было ўсё добра. Там св. Імша заўсёды была галоўнай падзеяй дня. А вось ужо ў Чырвоным касцёле, дзе ў нядзелю цэлебравалася 15 св. Імшаў, а я мусіў быць на кожнай, цяжка было падрыхтавацца і зразумець, якая з іх была для мяне галоўнай.

Таму жыццё змушала задумвацца: а чаму паўсюль так і ці нельга інакш. У Імшале – кнізе, якая выкарыстоўваецца для служэння св. Імшы, – ёсць г. зв. рубрыкі – падказкі для святара. Для прыкладу, там у пэўным momanце напісана, што святар складае рукі, захоўвае маўчанне, а пасля ўжо прагявае малітву. Аднак у нас рэдка спаткаеш такое захаванне: усё адбываецца



па-хуткаму. Мне падаецца, мы ўвогуле вельмі мала гаворым і дыскутуем наконт святарскай літургічнай фармацыі.

### НЕНАРМАЛЬНА, КАЛІ Я З МАШЫНЫ ВЫЛЕЗУ АДРАЗУ Ў АРНАЦЕ

***– Як Вы асабіста змагаецеся з аўтаматызмам у літургіі, са штодзённай заезджанасцю?***

– Перш за ўсё, я пастаянна стараюся нагадваць сабе, што св. Імша – гэта вяршыня і крыніца хрысціянскага жыцця. Да яе неабходна пастаянна імкнуцца. Касцёл вучыць, што святар кожную літургію павінен служыць, як першую і апошнюю.

Стараюся чытаць літургічную літаратуру. Мне асабіста вельмі дапамагае падрыхтоўка да св. Імшы. Не скажу, што тут у мяне ўсё ідэальна, але стараюся працаваць у гэтым плане. Традыцыя прадугледжвае, што святар можа маліцца пры апрананні літургічнага адзення і кожнага з яго элементаў. Ёсць малітва ўзбуджэння інтэнцыі. Ёсць малітва да Маці Божай, малітвы да святых. Я іх проста раздрукаваў і пакінуў у закрыстыі. Не толькі малітвы міністранта, але і гэтыя асобныя малітвы для падрыхтоўкі святара.

***– Я правільна разумею, што падрыхтоўка да св. Імшы – гэта, так бы мовіць, адзін з ключавых момантаў літургіі для Вас?***

– Так, менавіта так. Практыка ў мяне такая – за паўгадзіны да св. Імшы я павінен ужо знаходзіцца ў касцёле. Вядома, гэта магчымасць для людзей прыйсці паспавядацца. Аднак таксама і час для мяне, каб памаліцца Брэвіярыем. Гэтай практыкі, дарэчы, мяне навучыў мой першы пробашч у Вілейцы – кс. Аляксандр Барыла. Ну ненармальна, калі я з машыны вылезу адразу ў арнаце. Ненармальна, калі адразу забягу ў касцёл і не супакоюся перад цэлебрацыяй.

***– А Вам не падаецца, што якасць змагання святароў супраць гэтага аўтаматызму літургіі карэнным чынам уплывае на якасць адносін вернікаў да св. Імшы і літургіі ў цэлым?***

– Канешне, без сумненняў. Нельга лічыць, што ніхто не заўважае. Людзі бачаць, моліцца святар ці проста прамаўляе словы малітвы, на чым ён канцэнтруецца.


deon.pl

### НА ЖАЛЬ, ІСНУЕ НЕДАХОП ЛІТУРГІЧНАЙ ФАРМАЦЫІ ВЕРНІКАЎ

***– А як Вам бачыцца сучасны вобраз адносін сярэднестатыстычнага беларускага каталіка да св. Імшы? Давайце паспрабуем абагульніць.***

– Магчыма, гэта будзе негатыўны вобраз.

***– Давайце негатыўны.***

– Мне здаецца, многія не разумеюць усёй сутнасці св. Імшы. Літургія для іх з’яўляецца акцыяй, рытуалам, дзеяннем. Павінна быць прыгожа, дэкарацыі паўсюль. І гэта становіцца важнейшым за саму сутнасць. А сутнасць св. Імшы – гэта ахвяра Езуса Хрыста. Так, гэта і пір, і момант сустрэчы разам, аднак самае галоўнае – ахвяра Езуса Хрыста.

На жаль, існуе недахоп літургічнай фармацыі вернікаў. Цяжка адказаць адназначна, у чым крыецца прычына. Для прыкладу, у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, здаецца, няма фармацыі міністрантаў на дыяцэзіяльным узроўні ўжо 5 гадоў (у Гродзенскай з гэтым лепш). А з літургічнай фармацыяй дарослых яшчэ складаней.

Мне падаецца, што шмат людзей нават не разумеюць словы, якія прамаўляюцца падчас св. Імшы. Я раней думаў, што праблема ў польскай мове, аднак гэтак жа справа выглядае і са св. Імшамі па-беларуску. Таму бяда, перш за ўсё, у недахопе літургічнай адукацыі. Касцёл не надта шмат зрабіў у гэтай сферы. І, на жаль, у нас няма цяпер нейкіх платформ, дзякуючы якім гэтыя змены маглі б адбыцца.

***– Адкуль гэта магло ўзяцца? Усё ж, папярэднія пакаленні святароў, якія служылі яшчэ ў Савецкім Саюзе, адпраўлялі св. Імшу па-старому, яны былі выхаваны яшчэ ў той школе. Існавалі традыцыі, калі Камунію заядалі хлебам, перад касцёлам змянялі абутак, падаецца, пачуццё sacrum было моцным. Калі яно згубілася?***

– Цяжка сказаць. Прычына можа быць, ізноў жа, у няправільнай святарскай фармацыі. Святарскае пасвячэнне не азначае, што ўжо больш не трэба развівацца.

***– Клерыкі заканчваюць “цёплыя” семінарыі і трапляюць у цяжкую рэчаіснасць?***

– Ну немагчыма за 6 гадоў, хоць гэта і шмат, падрыхтаваць да ўсяго жыцця ў святарстве. Аднак семінарыя не вінаватая, што святар не можа падрыхтавацца да св. Імшы. Я вучыўся ў дзвюх семінарыях – Гродзенскай і Ольштынскай (Польшча). І Гродзенская ў літургічным плане была мацнейшай. Падрыхтоўка да св. Імшы, падзяка пасля св. Імшы. Не ведаю, як там цяпер, але ў мае часы ў нас былі класныя духоўныя айцы, якія маліліся разам з клерыкамі, давалі прыклад святарскага жыцця.

Дык вось, малады чалавек заканчвае святарскую фармацыю, і нібыта ўжо ўсё ведае. Аднак нават кананічнае права прадугледжвае пастаянную святарскую фармацыю. Духоўны айцец павінен абуджаць святарскую духоўнасць. У маёй жа дыяцэзіі духоўны айцец за ўсе гады хіба што ні разу не задаваў пытанні пра цяжкасці перажывання св. Імшы. Дзякуй Богу, апошні год у нас на Магілёўшчыне падчас святарскіх сустрэч ёсць “пяціхвілінутка”, калі абмяркоўваем літургічныя справы.

Сумна прызнавацца, але я сустракаў святароў, якія ні разу не чыталі ўводзіны да Рымскага Імшала. Дык пра што мы можам казаць?

### ПАЧАЦЬ ЭЎХАРЫСТЫЮ З ПАДРЫХТОЎКІ

***– Давайце ўявім, што католік зацікавіўся св. Імшой. Узнікае шмат пытанняў, хочацца перажываць літургію глыбей. З чаго пачаць?***

– Перадусім, не забывацца, што св. Імша – гэта самы вялікі і непаўторны дар, які нам даецца. Што кожны ўдзел у св. Імшы – невымерная Божая ласка. І што сама літургія нас фарміруе. Калі будзем спрабаваць пачуць, што гавораць нам Бог і Касцёл, то ўжо гэта будзе вялікім плюсам.

Да таго ж, я б, канешне, параіў чытаць літургічныя дакументы. На жаль, па-беларуску іх не так шмат, але, тым не менш, ёсць. Можна пачаць з базіса – Агульныя ўводзіны да Рымскага Імшала (ёсць на catholic.by). Таксама ў рамах разважання над св. Імшой можна чытаць адгартацыю папы Бенедыкта XVI “Sacramentum Caritatis”. І раю інтэрнэт-старонку scriptoriumnostrum.wordpress.com – там вельмі шмат пра Эўхарыстыю па-беларуску.

***– А што наконт парад лепшага перажывання св. Імшы?***

– Пачаць прыходзіць на св. Імшу мінімум за 15 хвілін. Гэта час, каб супакоіцца і папрасіць: “Божа, дапамажы мне перажываць св. Імшу так, як Ты гэтага хочаш. Дапамажы мне адкінуць лішнія думкі, настроіцца”.

Раю не баяцца карыстацца малітоўнікам. Адкрыць парадак св. Імшы, пачытаць адказы, убачыць іх вачыма. Таксама ў малітоўніках ёсць малітвы перад і пасля літургіі, малітвы праслаўлення. У старых выданнях увогуле былі разважанні на кожны момант Эўхарыстыі.

Трэба адзначыць важнасць заканчэння св. Імшы. Важнасць падзякі за ўдзел. Некаторыя святары адмыслова не робяць набажэнстваў пасля Эўхарыстыі, каб людзі мелі час памаліцца ў цішыні.

# ХРЫСТОС "ПРЫЗЯМЛІЎСЯ", АБО ПРА ЧАЛАВЕЧЫЯ РЫСЫ Ў БОСКІХ ВОБРАЗАХ

працяг са с. 1

**З нагоды "Казюкаў", ці дня ўспаміну св. Казіміра, калі цэнтральныя вуліцы Гродна поўняцца працамі мастакоў і рамеснікаў, разам з гродзенскай мастачкай Наталляй Клімовіч разважаем над хрысціянскімі матывамі ў творчасці**

*Ангеліна Марцішэўская*

***– Наталля, з чаго пачалося Ваша захапленне мастацтвам?***

– Гэта даволі тыповая гісторыя для мастакоў. У дзяцінстве пачынаеш маляваць, і хтосьці заўважае, накіроўвае далей. У маім выпадку гэта была выхавацелька ў дзіцячым садку, якая заўважыла маю любоў да малявання і параіла бацькам аддаць мяне вучыцца ў мастацкі клас. Дзякуючы ёй, я трапіла на гэтую сцежку. А пасля, калі трэба было свядома выбіраць, дзе далей вучыцца, ваганняў ужо не было. Абрала мастацтва, бо для мяне гэта было не захапленне, а спосаб мыслення, спосаб пражывання сябе.

***– Чаму Вас інспіруе хрысціянская тэматыка?***

– Творчасць выражае пачуцці, якія не даюць быць раўнадушным, абыякавым да ўсяго, што адбываецца навокал. Гэта праяўляецца не толькі ў рэлігійнай тэматыцы. Нават партрэт, пейзаж ці нацюрморт немагчыма напісаць без асаблівага пачуцця таямніцы... Адныя працы на хрысціянскую тэматыку нараджаліся ад сузірання, пільнага ўглядання ў вочы, у рухі і паставы людзей або абразы старых майстроў. Іншыя – ад разважанняў, і часам заставаліся толькі ідэямі. Напрыклад, натхніўшыся творам Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", я ўяўляла, як Хрыстос ходзіць па гродзенскіх вулачках, заходзіць у дамы і храмы. Тут мяне цікавіў не столькі вобраз Хрыста, колькі характары людзей, якім была патрэбна вера і надзея, без якой немагчыма было перамагчы цемру. Бо хрысціянства – гэта не толькі пра Бога, гэта пра людзей. І калі я гляджу, напрыклад, на абраз Багародзіцы, то ўзіраюся ў Яе вочы і спрабую зразумець гэтае "Віта, поўная ласкі...". Спрабую ўсвядоміць, як па-чалавечы можна спалучыць радасць з болем і смуткам. І бачу, што ў гэтым ёсць нейкая неверагодная глыбіня.

***– Вобразы Хрыста, Марыі і анёлаў прысутнічаюць у мастацтве з даўніх часоў, і іх пасыл нібыта заўсёды зразумелы. Аднак творчыя людзі нястомна намагаюцца надаць пэўную сваю ідэю традыцыйным сюжэтам. Які сэнс укладваеце ў абразы Вы?***

– Калі пішу на хрысціянскую тэматыку, то перапаўняюся любоўю і ўдзячнасцю, але насамрэч імкнуся быць проста інструментам, праз які праяўляюць Нябёсы. Для мяне гэта нешта своеасаблівае, таму маё мастацтва – не творчасць на кожны дзень і не праца на замову.

***– Ці маеце любімы твор на хрысціянскую тэматыку?***

– Цяжка вылучыць. Бывае проста, што некаторыя сюжэты найбольш блізкія. Аднолькава ўразіць можа і мясцовая творчасць і сусветна вядомыя шэдэўры.

Аднойчы я ўбачыла на адным падворку садовую кампазіцыю: на камяні стаяла невялічкая драўляная скульптура Журботнага Хрыста – пасівелае старое дрэва з расколінамі. Было бачна, што праца зроблена нейкім народным майстрам: яна была простая і лаканічная. Але галоўнае – сам вобраз Збаўцы, які сядзіць у адзіноце, пакляўшы галаву на далонь. Усё, што мне хацелася зрабіць у той момант – прытуліць Яго да сябе і суцешыць. Сказаць Езусу, што "ўсё будзе добра". Звычайна ж хочацца наадварот, каб Бог суцешыў нас.

Таксама мне падабаецца глядзець і разважаць над сюжэтам фрэскі Мазачча (*італьянскі жывапісец XV ст. – заўв. аўт.*) "Выгнанне з Раю". Калі ўглядзецца ў твары Адама і Евы, то можна ўбачыць роспач, жах і боль. Гэта не проста перажыванне выгнання, але вынік новага досведу, бо яны захацелі ведаць, чым ёсць дабро і зло. Убачыўшы зло ў самі х сабе, спарадзіўшы яго, першыя людзі жахнуліся. Ці быў злом сам "яблык"? Не. Галоўнае зло здарылася, калі на пытанне Бога "Дзе ты, Адам?" ён адказаў: "Я схаваўся".

***– На творчасць мастакоў і рамеснікаў звычайна ўплывае тое, што адбываецца навокал. Апошнім часам нашу краіну скалыхнуў грамадска-палітычны крызіс, які закрануў кожную сферу жыцця, у тым ліку і Касцёл. Ці меў ён нейкае ўздзеянне на Вашу творчасць?***

– Гэтыя нездаровыя працэсы адбываюцца вельмі даўно, і цяпер яны проста сталі відавочнымі для ўсіх. Як агромністую рану, якая пачала гнаіцца, яе нельга проста заклеіць пластырам і зрабіць выгляд, што ўсё добра. Патрэбна балючае і доўгае лячэнне. І перш за ўсё, трэба знайсці прычыны ўзнікнення крызісу ў нас саміх. Лічу, гэта шанс для нашага грамадства.

Цяпер я шмат думаю над тэмай пакут Хрыста. Менавіта так мне бачыцца тое, што адбываецца. Найбольш яскравы вобраз – гэта збіццё рымскімі жаўнерамі Збаўцы. Момант, калі над Праўдай чыняць гвалт. Але, што найбольш уражвае, жаўнеры не проста выконваюць загад, збіваюць, як прыпісана законам таго часу, але стараюцца як мага больш зняважыць годнасць чалавека. Самі праяўляюць ініцыятыву – аплёўваюць, насміхаюцца, як быццам няма ў іх чалавечнасці, і робяць гэта з задавальненнем. Можна спасылацца, што гэта норавы таго часу, але мы сустракаем падобнае і зараз. І зноў гучыць пытанне: "Дзе ты, Адам?". Дзе ты, чалавек?

**Каталіцкі Касцёл узгадвае св. каралевіча Казіміра 4 сакавіка.**



*"Анёл", праца Наталлі Клімовіч*

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***21 лютага – I Нядзеля Вялікага посту***
***Мк 1, 12–15***

Дух вывеў Езуса ў пустыню. І быў Ён у пустыні сорак дзён, дзе Яго выпрабоўваў сатана; і быў са звярамі, і Анёлы служылі Яму.

Пасля ж таго, як выдалі Яна, прыйшоў Езус у Галілею, прапаведуючы Евангелле Божае і кажучы: "Споўніўся час і наблізілася Валадарства Божае: кайцеся і верце ў Евангелле".

### Бог побач з намі

*Дні велікапоснага роздуму павінны стаць часам аднаўлення нашых адносін з Панам. Яно павінна выяўляцца ў глыбокай малітве, услухоўванні ў Божае слова, у пакаянных практыках і паставе любові да бліжняга. А ўсё для таго, каб мы адкрыліся на ласку збаўлення, якую Хрыстос здабыў для нас на Крыжы.*

*Езус Хрыстус, які пераадолеў д'ябальскія спакусы ў пустыні, і Яго наказ каяцца і верыць у Евангелле ўказваюць нам мэту гэтай велікапоснай вандроўкі – смерць нашых грахоў і ўваскрасенне да поўнага жыцця ў Богу.*

*Вялікі пост з'яўляецца нагодай, каб аднавіць свой запавет з Богам і з людзьмі. Нават Хрысту давялося супрацьстаяць сатане і перамагчы яго спакусы. Тры з іх, прадстаўленыя Езусу, адлюстроўваюць спакусы сучаснага чалавека: матэрыялізм і спажывецтва, выкарыстанне рэлігіі для дасягнення ўласных мэт, а таксама ідалапаклонства, якое выражаецца ў пакланенні грашам, распусце і ўладзе.*

*Чалавек спакушаецца, каб, абапіраючыся на дасягненні людскога розуму, ён выключыў Бога і Яго запаведзі са свайго жыцця. Адкідаючы Пана, асоба закрываецца ад дару звышнатуральнага жыцця. А таксама губляе сэнс жыцця тут, на зямлі. Таму, каб не трапіць у гэтую пастку, нам неабходна пастаяннае навяртанне і глыбокая вера ў словы Хрыста. Сапраўды, Валадарства Божае наблізілася. Давайце прыкладзём намаганні навяртання, каб некалі не шкадаваць, што Бог быў настолькі блізка, а мы адкінулі Яго запрашэнне.*

*Пане Езу Хрысце, які церпіш за мяне і за грахі ўсяго свету, дапамажы мне заўсёды быць побач з Табой, а таксама годна перажыць сёлетні Вялікі пост, каб праз малітву, пост і міласціну я мог дасведчыць Тваю прысутнасць у сваім жыцці.*

***28 лютага – II Нядзеля Вялікага посту***
***Мк 9, 2–10***

Езус узяў Пятра, Якуба і Яна і павёў на высокую гару асобна іх адных. І пераměніўся перад імі. Адзенне Ягонае сталася бліскучым і вельмі белым, як ніводзін валюшнік на зямлі не можа выбеліць. І аб'явіўся ім Ілля з Майсеем і гутарылі з Езусам. І на гэта Пётр сказаў Езусу: "Раббі, добра нам тут быць, таму зробім тры шатры: адзін Табе, адзін Майсею і адзін Іллі". Бо не ведаў, што сказаць, таму што яны спалохаліся. І з'явілася воблака, якое закрыла іх, і з воблака пачуўся голас: "Гэта Сын Мой умілаваны, Яго слухайце". І адразу, калі яны агледзеліся навокал, ужо нікога не ўбачылі, апроч аднаго Езуса. Калі сыходзілі яны з гары, загадаў ім нікому не казаць, што яны бачылі, пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсне з мёртвых. І захавалі наказ, разважаючы між сабою, што значыць "уваскрэснуць".

### Бог аб'яўляе сябе

*На гары перамянення Езус паўстае перад вучнямі такім, якім з'яўляецца на самой справе. Ён – любімы Сын Айца. Жыццё і дзейнасць Майсея і Іллі мелі сэнс толькі ў адносінах да Яго самога. Усе прарокі, учарашнія і сённяшнія, усе заканадаўцы, настаўнікі, аўтарытэты гэтага свету павінны знайсці для сябе ўзор і апору ў Езусе Хрысце. Гэтым шляхам асабістага кіравання ўласага жыцця ў святле Хрыста павінны ісці Яго вучні. Бо Ён з'яўляецца адзіным, выключным стандартам для нашага чалавецтва.*

*Будучы з'яднаным з Езусам Хрыстом, кожны з нас становіцца любімым Божым дзіцём, і нішто ў свеце – прыгнёт, пераслед, няўдачы, пакуты – не можа знішчыць гэтую ісціну, якая пацвярджаецца ва Уваскрасенні Езуса.*

*Акунуўшыся ў Яго праз хрост, мы былі перамененны, пакліканы да бляску славы і, хаця ў цяперашняй рэчаіснасці павінны разам з Ім накіроўвацца ў Ерусалім, куды шлях пазначаны крыжам, мы, ужо ўсведамляючы сваю місію, ідзём з надзеяй да перамянення сэрца, ажно пакуль не дасягнём паўнаты чалавецтва ў Небе, калі і наша цела перамяніцца па прыкладзе Хрыста.*

*Пане Езу Хрысце, які, будучы нявінным, прыняў асуджэнні, акуні мяне ў Тваю міласэрнасць, каб, ідучы сваёй Крыжовай дарогай, я заўсёды быў верны Табе і непахісны. Дай мне патрэбную сілу і моц, каб магчы накіроўвацца ў Неба.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ШЭМЕТУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Божаму люду, шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе, нязломнай веры, душэўнага супакою і шчырай радасці ў сэрцы.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з прафій Адамавічы і Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ ЯСЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем Божага блаславення, душэўнага супакою, усмешкі, шмат радасці і моцнага здароўя. Няхай Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і ўдзяляе свае дары, а Панна Марыя атуляе мацярынскім плашчом і нястомна пра Вас клапоціцца.*

*Прабабуля, бабуля, хросная і яе сям'я*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РАМАНУ ЯЛОЎЧЫКУ

*з нагоды імянін жадаем, каб Езус Хрыстус штодзённа Вас благаслаўляў, Маці Божая ахінала сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагаў годна выконваць святарскую паслугу і нястомна ўдзяляў свае дары. Жывіце ў радасці, а Ваша сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена спакоем і любоўю.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гнезна*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ БРАЗІНСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславення, моцнага здароўя, сіл для абвяшчэння Божага слова, радасці і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць шчодры плён, а Усемагутны, які паклікаў Вас да святарства, дапамагае ў рэалізацыі паслугі, каб Вы маглі крочыць па Божым шляху да святасці.*

*З малітвай апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ ЯСЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, радасцю і спакоем, зычлівыя людзі заўсёды спадарожнічаюць, а Маці Божая ахінае сваёй апекай і абараняе ад зла.*

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВАЛЯНЦІНУ ХВЕДУКУ

*з нагоды імянін жадаем Божага блаславення, апекі Маці Божай на кожны дзень, заступніцтва св. Валянціна, а таксама моцнага здароўя, радасці і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню, шчырасць і ахвярнае служэнне.*

*З малітвай і павагай вернікі з парафіі св. Юрыя ў Беліцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РАМАНУ ЯЛОЎЧЫКУ

*ў дзень імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя і Божага блаславення на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус нястомна адорвае Вас шчодрымі ласкамі, умацняе пакліканне і дадае сіл у кіраванні парафіяй. Няхай пачуццё задавальнення ад выконваемай святарскай паслугі ніколі Вас не пакідае, а душпастырская дзейнасць прыносіць шчодры плён. Жадаем мноства радасных хвілін, пазітыўнага настрою і імкнення Божай дарогай да святасці.*

*Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

### ПАВАЖАНАМУ ЗАКРЫСТЫЯНІНУ СЯРГЕЮ КІКІЛІЧУ

*з нагоды дня нараджэння шчыра жадаем здароўя, моцнай веры, поўнай адданасці Богу, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і Божага блаславення. Цешцеся кожнаму дню, які падарыў Вам Усемагутны! Няхай яркі праменьчык з неба заўсёды пранікае ў Ваша сэрца і напаўняе супакоем.*

*З малітвай апостальства "Маргарытка", Легіён Марыі і вернікі парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

### СЕМ'ЯМ КРАЎЧЫК, ДУДНІК, КАЗЬМІРОВІЧ І ТЭРЭЗЕ ЛУКУЦЬ

*ад шчырага сэрца дзякую за апеку і дапамогу, якую аказалі мне, калі была ў шпіталі. Няхай усемагутны Бог за ўсё Вас узнагародзіць і ўдзеліць свае шчодрыя ласкі.*

*Ядзвіга Казмерчык*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ВІКТАРУ ВЕЛІВІСУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень сярод верных і добразычлівых людзей.*

*Вернікі парафіі св. Роха ў Грандзічах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ВЕЛІВІСУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху, на які Вас паклікаў усемагутны Бог. Няхай міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, Дух Святы няспынна спасылае свае дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае сваёй любоўю і апекай.*

*Парафіяне з Путрышкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТАЛІЮ ВНАРОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем праз усё сваё жыццё з даверам і надзеяй імкнуцца за Панам. Цешцеся светам і сустрэтымі людзьмі. Няхай Ваша сэрца перапаўняюць спакой і любоў. Старайцеся больш слухаць Бога, чым людзей, і няхай Ён адорыць Вас блаславеннем, здароўем і сілай.*

*Сям'я Адамовіч*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Дэпартамент па гуманітарнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь не зарэгістраваў сродкі, прызначаныя на закуп хатніх жывёл, саджанцаў і прадуктаў для бяздомных і патрабуючых.

Дабрачынны праект ладзіць Рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас»" Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. У гэтым годзе планавалася дапамагчы каля 700 патрабуючым. Прычына нерэгістрацыі сродкаў невядомая. Супрацоўнікі рэлігійнай місіі тлумачэнняў не атрымалі.

Падтрымаць праекты дабрачыннага таварыства "Карытас" можна праз запыт USSD для абанентаў МТС *222*16# (сума 2 рублі), а таксама праз сістэму АРІП (нумар паслугі 434 9831): грамадскія аб'яднанні->дапамога дзецям, дарослым->Карытас Мінск->ахвяраванні.




**рэлігійны часопіс**

Чаму ў свеце існуе столькі зла? Чаму Бог не знішчыць створаны сабою свет, калі ў ім столькі благога? Напэўна, кожнага хоць раз у жыцці турбавалі гэтыя пытанні.

Зло – гэта наступства вольнай волі, якою Бог надзяліў чалавека. І няма ніякай неабходнасці знішчаць свет, бо дастаткова толькі таго, каб людзі добравольна ўключаліся ў рэалізацыю Божых планаў, тады свет стане адной вялікай любячай сям'ёю.

Пан Бог неаднойчы папярэджваў чалавецтва аб магчымым знішчэнні свету. Ён рабіў гэта спачатку праз патоп і катаклізм Садома і Гаморы, далей – праз іншыя выпрабаванні. Адначасова ва ўсіх выпадках Бог ратаваў усё, што добрае, каб пасля ачышчэння яно магло развівацца далей, узбагачанае балючым выпрабаваннем.




**беларуская рэдакцыя**

Папская акадэмія жыцця абнародавала дакумент пад назвай "Старасць – наша будучыня. Стан пажылых людзей пасля пандэміі". У тэксце звяртаецца ўвага на сітуацыю пажылых падчас пандэміі Covid-19 і адзначаецца, што менавіта яны сталі першымі ахвярамі каранавіруса. Улічваючы гэта, адзначаецца патрэба ў "новай канцэпцыі, якая дазволіць грамадству клапаціцца пра пажылых". Падкрэсліваецца клопат пра сустрэчу паміж пакаленнямі і духоўнасць сталых асоб, якія "бліжэй да таямніцы вечнасці".

Апостальская Сталіца заклікае пераадолець стэрэатыпнае бачанне, згодна з якім старасць лічыцца "нешчаслівым узростам". "Быць пажылым – гэта Божы дар, велізарны рэсурс і здабытак, які трэба абараняць", – адзначаецца ў тэксце.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Курыя Гродзенская дыяцэзіі са смуткам паведамляе, што 15 лютага ў Варшаве (Польша) адышоў па ўзнагароду да Пана а. Казімір Жыліс SJ.

На працягу многіх гадоў, з 6 кастрычніка 1983 года, айцец езуіт Казімір Жыліс нёс святарскае служэнне ў Гродзенскай дыяцэзіі. Каталіцкі Касцёл у Беларусі ўдзячны яму за аднаўленне святынь, вельмі багаты кінаархіў адраджэння Касцёла, шматлікія пакліканні, служэнне зняволеным і апеку над літоўскай каталіцкай супольнасцю ў Гродне.

**Вечны адпачынак дай яму, Пане!**

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 601; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.